

Газета заснавана ў 1938 годзе. Адноўлена ў 1997 годзе.

МАСАВА-ПАЛІТЫЧНЫ ШТОТЫДНЁВІК

# Газета Слонімская

№20 (310) 15 — 21 траўня 2003г. Наклад 11.500 экз. Кошт 400 руб.



## АНОНС



**УВАЖАЕМЫЕ СЛОНИМЧАНЕ!**
**Примите самые сердечные поздравления с Днём физической культуры и спорта!**

Желаем всем работникам физической культуры и спорта, ветеранам и активистам физкультурного движения крепкого здоровья, успехов в профессиональной деятельности, личного благополучия, материального достатка, высоких достижений и новых побед!

**Отдел по физической культуре, спорту и туризму Слонимского РИК**

# ВАС ТАК МАЛА ЗАСТАЛОСЯ



Фота Вольгі ШЫНКЕВІЧ

З кожным годам усё менш вас на зямлі Слонімскай, ветэраны Айчыннай вайны. Даруйце нам, што ўспамінаем пра вас усё радзей. Вось свята якое-небудзь прыходзіць, і нясем мы вам кветкі і падарункі.

А ў Дзень Перамогі свае сціплыя кветкі несяце ўжо вы. Да брацкіх магілаў, бо там — вашыя франтавыя сябры, бо там — ваша маладосць, бо там — памяць аб мінулым, што даравала нам будучыню.



## РАСЦЕНКИ
**на рекламные услуги в "Газеце Слонімскай":**

| | |
|---|---|
| Строчная (частная) реклама | 4000 руб (повтор бесплатно), |
| Поздравление без фото | 5000 руб., |
| Поздравление с фото | 5500 руб., |
| Соболезнование, благодарность | 3000 руб., |
| Модульная реклама — 1 кв.см | 813 руб. |

Последний срок подачи рекламы в текущий номер — **понедельник 18.00.**
**Время приема рекламы с 9.00 до 18.00, воскресенье — с 11.00 до 16.00, выходной — суббота.**

НАВІНЫ

### КАНЦЭРТНАЯ СПРАВАЗДАЧА ПЕРАД ВОБЛАСЦЮ

**16 траўня ў зале Гродзенскай абласной філармоніі пройдзе канцэрт творчых калектываў і выканаўцаў Слоніма і Слонімскага раёна.**

Гродзенскія гледачы ўбачаць выступленні хора ветэранаў "Памяць", аркестра народных інструментаў, ансамбляў "Грымата", "Славяначка" (Кастровічы), тэатра "Этуаль", тэатра эстрадна-спартыўнага танца "Каскад", ансамбля "Рабіначка", хора "Званочкі", эстраднай студыі "Шанс", мужчынскай вакальнай групы Жыровіцкага манастыра і іншых калектываў Слонімшчыны.

Падчас канцэрта адбудзецца выстава дэкаратыўна-прыкладнога і выяўленчага мастацтва, матэрыялаў кінафотастудыі Слонімскага РДК і мясцовых калекцыянераў.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

### ЮНЫ ПАРТЫЗАН БЕЗ ШЫЛЬДЫ НЕ ЗАСТАЎСЯ

**Пасля капітальнага рамонту будынка Слонімскай раённай цэнтральнай бібліятэкі некалькі месяцаў назад знікла мемарыяльная шыльда, прысвечаная памяці юнага героя са Слонімшчыны Васі Крайняга.**

Шыльду знайсці так і не ўдалося.

Напярэдадні свята Перамогі на месца старой шыльды прымацавалі новую. Яе бясплатна зрабіў і падараваў гораду слонімскі скульптар Леанід Богдан.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

### КУРСЫ ОБМЕНА ВАЛЮТ ПО СОСТОЯНИЮ НА 13 МАЯ 2003 ГОДА

| "Беларусбанк" | | |
|---|---|---|
| | Покупка | Продажа |
| 1 USD | 2010 | 2050 |
| 1 EURO | 2270 | 2400 |
| 1 ZL | 510 | 550 |
| 1 RUR | 63 | 66 |
| оао "Белпромстройбанк" | | |
| | Покупка | Продажа |
| 1 USD | 2015 | 2040 |
| 1 EURO | 2300 | 2370 |
| 1 ZL | 510 | 545 |
| 1 RUR | 63,8 | 65,8 |
| "Белагропромбанк" | | |
| | Покупка | Продажа |
| 1 USD | 2010 | 2035 |
| 1 EURO | 2260 | 2380 |
| 1 ZL | 480 | 550 |
| 1 UAH | 360 | 400 |
| 1 RUR | 62 | 66 |
| Нацбанк РБ | | |
| 1 USD | 2027 | |
| 1 EURO | 2353,04 | |
| 1 RUR | 65,37 | |



НАШИ БУДНИ

# ГОТОВИЛИ «ПОДАРОК» ВЕТЕРАНУ КО ДНЮ ПОБЕДЫ



Фота Вольгі ШЫНКЕВІЧ

*Лишь соседи помогают выйти на улицу дедушке Павлу*

**Неподдельное волнение в голосе женщины, позвонившей утром 8 мая в редакцию «ГС», заставило корреспондентов спустя некоторое время оказаться на улице Васи Крайнего.**

Не такая уж серьезная (на первый взгляд) проблема, вставшая перед большинством жителей дома №12 по этой улице. Легким росчерком пера по заявлению одной жительницы этого шестиквартирного дома решено было спилить красавицу-вишню. Она, якобы, мешает свету в окошко проникать.

Остальные жители этого дома были против вырубки вишни и горой стали на ее защиту. И не только на защиту дерева, которое сейчас все в белом цвету стоит, а к осени не меньше десятка ведер вишен принесет, было жаль. Живет в доме инвалид первой группы дедушка Павел (Мацкевич). У него ампутирована правая нога, а инвалидной коляски, чтобы иметь хоть минимальную возможность двигаться, — нет. Сердобольные соседки по очереди помогают ему выбираться на крыльцо своего дома. А там уж вишня едва ли не единственное, что может порадовать старика и скрасить его одиночество.

Когда корреспонденты появились во дворе, рабочие ГУП «ЖЭС №1» уже готовили к работе бензопилу. Правда, сама идея извести под корень вишню им и не нравилась. Люди они подневольные, а за работу сегодня держаться нужно обеими руками. Так что, лежать бы сейчас вишне посреди двора. Да вот только общими усилиями удалось уговорить мастера ЖЭС №1 повременить исполнять решение исполкома и дать возможность официально обратиться со своей точкой зрения о дальнейшей судьбе дерева остальным жильцам дома.

И дай Бог властям мудрости разобраться во всем по справедливости.

**P. S.** Со своей стороны редакция «ГС» просит всех милосердных людей оказать помощь в приобретении инвалидного кресла-каталки для Павла Неофитовича Мацкевича.

**Валерий КОВАЛЕНКО**

ІНТЭРВ'Ю

# СЛОНІМСКАЯ ДРУКАРНЯ — АДНА З ЛЕПШЫХ НА ГРОДЗЕНШЧЫНЕ

**Напярэдадні Дня друку дырэктар Слонімскай друкарні Анатоль Лагуцік быў узнагароджаны Ганаровай граматай аблвыканкама за дасягненне высокіх вытворчых паказчыкаў і якасць прадукцыі.**

З гэтай нагоды карэспандэнт "ГС" сустрэўся з Анатолем Аляксандравічам і задаў некалькі пытанняў.

**— Анатоль Аляксандравіч, раскажыце, калі ласка, якую прадукцыю зараз выпускае Слонімская друкарня, і хто з'яўляецца вашымі кліентамі?**

— На сённяшні дзень мы друкуем дзесяць газет, чатыры часопісы, дваццаць чатыры найменні тавараў народнага спажывання, у тым ліку і кніжную прадукцыю. А днямі мы атрымалі ліцэнзію на вытворчасць бланкаў строгай справаздачнасці. Такім чынам, на сённяшні дзень Слонімская друкарня стала адной з нямногіх у рэспубліцы, дзе можна заказаць, практычна, любую друкаваную прадукцыю.

**—Анатоль Аляксандравіч, вас узнагародзілі Ганаровай граматай аблвыканкама за высокія вытворчыя паказчыкі. Гэта мяжа дасягненняў, альбо ёсць перспектыва?**

— Слонімская друкарня і раней вызначалася высокай якасцю сваёй прадукцыі. А нядаўна мы набылі новую паліграфічную тэхніку, якая дазволіць значна пашырыць нашы вытворчыя магчымасці. У нас самы нізкі сабекошт прадукцыі з усіх шасці друкарняў вобласці. У выніку, заказчык ідзе да нас, а работнікі друкарні своечасова атрымліваюць зарплату. Так вось і атрымалася, што напярэдадні Дня друку нашу друкарню назвалі лепшай у вобласці. Хаця, прызнацца, я гэтага нават і не чакаў.

**— Ну што ж, гэта прыемная нечаканасць. Я таксама віншую вас з узнагародай і надалей жадаю поспехаў у працы.**

— Дзякуй за добрыя пажаданні.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

ЗДАРЭННІ

### ГАСПАДАР НЕ ДАЛІЧЫЎСЯ ЧАТЫРОХ КУРЭЙ

**У ноч на 8 траўня ў аднаго з жыхароў вёскі Жыровічы з куратніка зніклі чатыры курыцы.**

Калі назаўтра гаспадар не далічыўся чатырох птушак, то заявіў пра іх знікненне ў міліцыю.

Праводзіцца праверка.

### ЗЛОДЗЕЙ СПАЛОХАЎСЯ

**На мінулым тыдні ў райаддзел міліцыі пазваніла жыхарка дома па вуліцы Чырвонаармейскай і паведаміла, што ў яе з падвала ўкралі кансерванты.**

Але калі потым жанчына зноў спусцілася ў падвал, то знайшла сумку, у якой ляжалі слоікі з яе падвала, магнітола і атлас аўтамабільных дарог. Пазней з заявай у міліцыю звярнуўся слонімец, у якога ўкралі магнітолу. Як аказалася, яна знаходзілася ў сумцы разам з кансервантамі.

На думку работнікаў міліцыі, злодзея штосьці напалохала, і ён пакінуў сумку з крадзеным на месцы злачынства.

### УКРАЛІ ВЕЛАСІПЕД І АЎТАМАГНІТОЛУ

**З падвала дома па вуліцы Ф.Скарыны ў Слоніме у ноч на 8 траўня знік веласіпед.**

А ў ноч на 9 траўня ў вёсцы Падгорная з іншамаркі мясцовага жыхара ўкралі аўтамагнітолу.

Па дадзеных фактах праводзяцца праверкі.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

### ВІНАВАТЫ ТУМАН

**На трасе Слонім–Баранавічы, каля вёскі Новая Стража, сутыкнуліся дзве машыны.**

У выніку аварыі адзін чалавек з траўмамі быў дастаўлены ў бальніцу. Прычынаю аварыі стаў густы туман і дрэнная бачнасць на дарозе.

### ДЖЫП ЗАТРЫМАЛІ

**На загад супрацоўнікаў ДАІ ў Жыровічах не спыніўся джып BMW.**

Падчас пагоні невядомыя асобы пакінулі аўтамабіль у лесе, а самі зніклі. Аказалася, што джып, 2002 года выпуску, быў украдзены. Вядзецца праверка.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

### ВСЕ ДЕЛО В ПЕЧИ

**В среду, 7 мая, в деревне Бояры Слонимского района горел деревянный дом.**

Огнем повреждены перегородки постройки.

Как выяснилось, причиной пожара стала неисправная печь.

### СГОРЕЛ САРАЙ

**В День Победы, 9 мая, по ул. Железнодорожной в Слониме сгорел деревянный сарай.**

Огонь также уничтожил крышу рядом расположенного нежилого дома. Причина пожара и причиненный ущерб устанавливаются.

**Ольга ШИНКЕВИЧ**

ПОГЛЯД ЗБОКУ

# ЧАМУ НАС ГАНЯЮЦЬ?

**Кожную раніцу я бачу ў двары свайго дома жанчыну, якая прадае малако. Яна выстаўляе пластмасавыя бутэлькі з сырадоем на стол, за якім пенсіянеры любяць гуляць у карты ці "забіваць казла", і чакае. Напэўна, у яе ёсць свае пакупнікі, бо доўга на месцы жанчына не затрымліваецца.**

Фармальна ўладальніца рагулі парушае правілы гандлю. Але жанчына ўжо "прыжылася" у двары дома, і ніхто не забараняе ёй гандляваць. Канкурэнтаў таксама няма. Але галоўнае, ніхто не гоніць са "свайго" месца.

І другая сітуацыя. У рэдакцыю пазваніла гандлярка прадукцыяй з уласнага агарода і паскардзілася, што такіх як яна гандляроў ганяюць на слонімскіх рынках і прадпрымальнікі, і работнікі рынку, і міліцыянеры. Правілы такія, што калі ў цябе ёсць даведка землекарыстальніка, то плошчу за месца на рынку 500 рублёў і гандлюй бурачкамі, капустай, морквай, бульбай ці іншым, што ў цябе там вырасла.



*Малако з-пад сваёй рагулі*

Фота Віталя ГІЛЯ

Па ходу гутаркі высветлілася, што ганяюць прыватных гандлярак сельгаспрадукцыяй не з тэрыторый калгаснага рынку і рынку, што на Брэсцкай вуліцы, а толькі з чужых месцаў за прылаўкамі. Месцы тыя даўно ўжо размеркаваныя паміж пастаяннымі гандлярамі. Таму ў выхадныя дні, калі ідзе самы ажыўлены гандаль і калі найбольшы наплыў пакупнікоў, жанчынам і бабулькам з іх дробным таварам месца ў гандлёвых радах не застаецца. Асабліва — на тэрыторыі рынку на Брэсцкай вуліцы. Тэрыторыя там невялікая, і калі гандлярка раскладзе свой тавар за яе межамі, напрыклад, каля крамы, то адтуль яе могуць "папрасіць" тыя ж міліцыянеры, бо гэта ўжо парушэнне правілаў гандлю. На калгасным рынку месца хапае для ўсіх у любы дзень тыдня. Але зноў жа — не ў гандлёвых радах. Тэрыторыя "разабрана" прыватнымі прадпрымальнікамі. І бабулькі з некалькімі кілаграмамі цыбулі ці буракоў з уласнага агарода для іх не канкурэнты. У глыб рынку, на задворкі, дзе ёсць месца і для вясковых гандлярак, большасць пакупнікоў не даходзіць, бо ўсё неабходнае можна купіць бліжэй. І тут, як кажуць, нічога не папішаш — такія яны рынкавыя адносіны на рынку. Бабулькам крыўдна, што яны ў гэтай іерархіі аказваюцца апошнімі. Адсюль і званкі, і пытанні, "чаму нас ганяюць?"

Калі пасля вайны на Слонімшчыну вярнуліся калгасы, адзінай крыніцай жыцця для вяскоўцаў засталіся прысядзібныя ўчасткі ("соткі") і хатняя гаспадарка. Мая бабуля прадавала на слонімскім рынку смятанкавае масла, сыры, курэй, гусей, індыкаў і іншае. Усё гэтае дабро яна вазіла ці насіла з хутара пешшу амаль за 30 кіламетраў. У бабулі, як яна казала, былі свае пакупнікі, і гандаль ішоў добра. За выручаныя грошы бабуля апранала, абувала і збірала ў школу двух дачок, якіх пасля вайны гадавала без мужа. І мая маці, і яе сястра не помняць, каб яны ў дзяцінстве галадалі, хаця ў той час галадалі многія. Канечне, час быў іншы і іншы гандаль. Але, калі ўжо параўноўваць, то і цяпер калгасы даведзены да такога стану, што асноўны прыбытак селянін атрымлівае з уласнай гаспадаркі, агароду і тых жа "сотак". І не праблема зараз прадаць лішкі бульбы, мяса ці гароднiны. Не застаюцца ў накладзе тыя, хто ўмее гадаваць і, канечне, прадаваць раннія гатункі тых жа памідораў ці агуркоў. Зразумела, што гэта не бабулькі. Гэта ўжо зусім іншае пакаленне вяскоўцаў, якія навучыліся круціцца і выжываць ва ўмовах рыначнай канкурэнцыі і загразлай у сацыялізме, бяздарнай аграрнай палітыкі дзяржавы. Яны прадаюць сваю сельгаспрадукцыю ўсюды, дзе яе могуць купіць, а не толькі на мясцовых рынках, дзе на прадпрымальнікаў з усіх бакоў цiснуць падаткамі, яны канкуруюць між сабой і выцясняюць дробных гандляроў.

Атрымліваецца, што ва ўмовах, калі ўсе ганяюць усіх, крыўдаваць, што "ганяюць" цябе, можна толькі на самога сябе.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

НАВІНЫ

## ПОЛВЕКА ВМЕСТЕ

**На прошлой неделе две супружеские пары из Слонима отпраздновали 50-летие совместной жизни.**

Сотрудники ЗАГСа поздравили Николая Сергеевича и Валентину Ефимовну Ершей, а также Семена Фомича и Евгению Николаевну Приходовских со столь знаменательным событием в их жизни.

## ГРИПП НАЧАЛСЯ С СЕЛА

**Эпидемия гриппа в этом году в Слониме и районе развивалась достаточно своеобразно: в середине февраля основной массой болеющих являлись сельские жители, в то время как в город грипп "добрался" лишь в конце марта — начале апреля.**

Об этом корреспонденту "ГС" сообщила заведующая эпидемиологическим отделом Слонимской районной эпидемиологической станции Елена Добриян. "Вообще-то, в этом году эпидемия гриппа была не очень интенсивной. За неделю (в самый разгар эпидемии) наша служба регистрировала по 300 случаев заболевания", — сказала Елена Добриян.

**Ольга ШИНКЕВИЧ**

**УДАКЛАДНЕННЕ**

У "ГС" №18 ад 1 – 7 траўня ў нататцы "Сабака здох з голаду" прайшла недакладная інфармацыя. Як аказалася, сабака сапраўды пэўны час знаходзіўся зачынены ў пустой кватэры дома №4 па вуліцы Хлюпіна, але да смерці жывёлы гэта не прывяло.

Рэдакцыя перапрашае гаспадыню сабакі за дапушчаную недакладнасць.



ЦАРКВА

## ПАМЯТНЫЯ СУСТРЭЧЫ

**7 траўня — Дзень жыровіцкай іконы Маці Божай па Грыгаранскім календары. З гэтай нагоды 10 траўня ў касцёл святога Андрэя з'ехаліся паломнікі з усёй Беларусі, каб памаліцца каля святыні за наш край, за беларускі народ і свае сем'і.**

Правілі набажэнства апостальскі візітатар Беларускай грэка-каталіцкай царквы архімандрыт Сяргей (Гаек), святары з Баранавіч і Мінска парах Яўген і Андрэй Абламейка, а таксама місіянер з Украіны Любамір.

У малебне прымалі ўдзел вернікі з Івацэвічаў, Баранавіч, Слоніма і група скаўтаў з Мінска. Малітвы гучалі на беларускай мове, бо грэка-каталіцкая царква Беларусі правіць службу толькі па-беларуску.

Пасля малебна ў касцёле святога Андрэя ўсе вернікі накіраваліся ў Альбярцін да крыжа, які быў пастаўлены ў 1996 годзе ў гонар манахаў-езуітаў. Гэта яны ў свой час пабудавалі альбярцінскія касцёл і царкву.

**Таццяна ТРАФІМЧЫК**

ВОКРУГ СТРОЙКИ

# РАБОЧИХ ОТВЛЕКАЮТ СЛОНИМЧАНКИ

**Полным ходом идут в Слониме работы по завершению строительства нового моста через Щару по улице Советской. Строители обещают сдать мост в июле, если своевременно работы будут профинансированы.**



*Юбки выше колена для работы противопоказаны*

Фота Вольгі ШЫНКЕВІЧ

В последний раз было выделено 200 миллионов рублей из дорожного фонда. Еще в два раза больше средств необходимо на реконструкцию подъездных дорог и инфраструктуры. Это, так сказать, практическая сторона дела.

А вот что думают о сроках сдачи моста рабочие брестского «Мостоотряда-58», которые трудятся вахтовым методом: неделю дома, неделю — на объекте...

Бригадир, Валерий Мельничук – заслуженный строитель Беларуси – слонимский мост похвалил.

— Объект, — по его словам, — «супер». И деньги выделяют вовремя, а значит, и сдача будет вовремя. Где-то в июне-июле. А если нас подгонят, скажут — давайте быстрей, то и в мае закончим. А под дулами автоматов и через три дня мост бы сдали, — пошутил бригадир.

Прораб Игорь Лепешко был более лаконичен и просто сказал, что планируют уложиться с ремонтом моста в срок.

Хотя, по мнению строителей, мост на время ремонта для пешеходов надо было закрыть, чтоб девчонки молодые не ходили. Особенно в коротких юбках. Они мешают мужчинам работать. Так что у гостей нашего города останутся в памяти не только славное прошлое Слонима, памятники архитектуры, но и его прекрасные девушки.

Ну, а если серьезно, то брестские мостостроители обещают объект сдать в срок.

**Валерий КОВАЛЕНКО**

НАВІНЫ

## БУДЗЕ ЎСТАНОЎЛЕНЫ МЕМАРЫЯЛЬНЫ ЗНАК МІХАЛУ ВАЛОВІЧУ

**У жніўні мінулага года наш зямляк — гісторык, аўтар кнігі "Парэчча" Аляксандр Талерчык звярнуўся з заяваю ў Слонімскі райвыканкам з прапановаю ўстанавіць на вясковых могілках у вёсцы Парэчча мемарыяльны знак Міхалу Валовічу (1806–1833).**

Як паведаміў карэспандэнту "ГС" Аляксандр Талерчык, нядаўна ён атрымаў станоўчае рашэнне Слонімскага райвыканкама на ўстаноўку мемарыяльнага знака нашаму знакамітаму земляку Міхалу Валовічу, і гэты знак творчая інтэлігенцыя Слонімшчыны плануе ўстанавіць летам.

Нагадаем, што Міхал Валовіч нарадзіўся ў маёнтку Парэчча. Ён быў з беларускага шляхецкага роду Валовічаў. Падчас вучобы ў Віленскім універсітэце (1822-1825) быў блізкі да тайнага таварыства філаматаў і філарэтаў. Удзельнічаў у паўстанні 1830-1831 гадоў у атрадзе генерала Гелгуда. Пасля задушэння паўстання рускім царызмам, эмігрыраваў у Францыю. Уваходзіў у эміграцкія палітычныя арганізацыі. Выступаў за адмену прыгоннага права, за абвяшчэнне Беларусі незалежнай дэмакратычнай рэспублікай. Удзельнічаў у Заліўскай экспедыцыі 1833 года. У сакавіку 1833 года ў якасці паўстанцкага начальніка Слонімскага і Навагрдскага паветаў прыбыў на Беларусь. Стварыў у наваколлі Слоніма партызанскі атрад з сялян. Праз два месяцы атрад быў разбіты рускімі войскамі, а Валовіч арыштаваны. Паводле прыгавору ваенна-палявога суда наш зямляк быў павешаны ў Гродне.



Па ўспамінах старажылаў вёскі Парэчча, цела Міхала Валовіча яго маці перавезла ў Парэчча і пахавала на былых могілках, хаця дакладнае месца пахавання невядома.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## ЮНІСЭФ НА СЛОНІМШЧЫНЕ

**У вёсцы Новадзевяткавічы пачаў дзейнічаць інфармацыйны цэнтр арганізацыі аб'яднаных нацый па правах дзіцяці ЮНІСЭФ.**

Вясковая моладзь Слонімшчыны можа даведацца у цэнтры аб дзейнасці ЮНІСЭФу ў Беларусі, атрымаць прававую і іншую інфармацыю.

Як зазначыў кіраўнік маладзёжнага творчага аб'яднання "Вятрак" Алег Шэлестаў, падчас рэалізацыі праекту плануецца правядзенне круглых сталоў, сустрэч, дыспутаў і іншых маладзёжных мерапрыемстваў.

Наладзіць кантакты з інфармацыйным цэнтрам ЮНІСЭФ на Слонімшчыне можна па паштовым адрасе: 231800, Слонім- 9, а/с – 25 альбо па электронным адрасе: ic_novodeviatkovichi@tut.by

**Мікола КАНАНОВІЧ**

ВЁСКА

# ЗАВОДНЫ ЛЕС — ДАЛЁКА ЗА СЛОНІМАМ

**Вёска Заводны Лес — адна з самых аддаленых вёсак Слонімскага раёна. Знаходзіцца яна на мяжы з Івацэвіцкім раёнам. Калі ісці праз лес, дык праз дваццаць кіламетраў можна трапіць у Даманава, а таксама ў турму, якая знаходзіцца ў тым жа суседнім Івацэвіцкім раёне.**

У мінулую суботу нашы карэспандэнты наведалі Заводны Лес. Пасля гутаркі з жыхарамі гэтай вёскі, трохі высветліліся іх праблемы і тое, чым сёння жывуць вяскоўцы.

### ЗАТРЫМЛІВАЮЦЬ ЗАРПЛАТУ

Калі едзеш па дарозе з Жыровічаў на Акунінава, заўважаеш дагледжаныя і засеяныя палеткі. Недалёка ад цэнтральнай сядзібы агра-гандлёвай фірмы "Шчара" на трактары з сеялкай працаваў мясцовы трактарыст Леанід Ясінскі. Мы вырашылі разам зрабіць невялікі перакур і пацікавіліся ў Леаніда, як яму тут працуецца. "Родам я з Украіны, а тут жыву амаль дваццаць гадоў. Працуецца добра, а вось з зарплатаю ёсць праблемы — з лютага мы яе яшчэ не атрымалі. А гэта дзесьці каля 600 тысяч рублёў", — сказаў трактарыст.

Сапраўды, дзіву даешся, як людзі ў вёсцы, калі ўжо і бульба скончылася ці пайшла на пасадку, закаткі за зіму з'еліся, выжываюць без заработнай платы. Хіба што ратуюць малочныя прадукты, бо пашы для кароў пакуль хапае.

### ЯК ПАСАДЗІЦЬ БУЛЬБУ?

У вёсцы Заводны Лес, са слоў вяскоўцаў, пражываюць каля дваццаці чалавек. З іх — толькі пяць мужчын. Ды і сама вёска хутарамі раскідана па наваколлю. У вёсцы толькі два тэлефона, аўтобус туды не ходзіць, магазіна няма, але два разы на тыдзень прыязджае аўталаўка з хлебам, батонамі, крупамі, цукрам і віном.





*Лідзія Равенка паказвае, дзе жывуць бабры*





*Дваццаць гадоў працуе механізатарам АГФ "Шчара" Леанід Ясінскі*





*Самы надзейны транспарт для жыхароў Заводнага Лесу — веласіпед*

Убачыўшы рэдакцыйную машыну, з хат павыходзілі вясковыя абарыгены, у асноўным, пенсіянеры. "Праблема сёння ў нас адна — як пасадзіць бульбу. Трэба гной вывезці, узнікае пытанне, дзе каня дастаць ці трактар, — скардзіліся вяскоўцы.— Пакуль гаспадарка не пасадзіць бульбу, пра нас і не падумаюць. А нам ужо цяжка бегаць і прасіць таго ж гною на поле, ды і дарога ён каштуе: за сем тон неабходна заплаціць 35 тысяч рублёў. Хутка зусім будзем адказвацца ад сотак. Няма ў нас ужо сілаў, а таксама грошай (пенсія ў нас 75-90 тысяч рублёў)". Гаварылі і прасілі вясковыя кабеты пра тое, каб хоць раз на тыдзень у Заводны Лес прыходзіў прыгарадны са Слоніма аўтобус, каб хоць да доктара дабрацца. "Я ў калгасе адпрацавала 33 гады, а мой муж —44 гады. Цяпер муж вельмі хварэе, яму неабходны лекі, а ў Слонім не дабрацца ў будзённы дзень. Зусім пра нас забыліся", — скардзілася пенсіянерка Ніна Бурдзь.

### НЕВЯДОМАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ САЛДАТ

Хата Лідзіі Ульянаўны Равенка самая крайняя ў Заводным Лесе. Жанчына нам распавядала пра тое, як некалькі дзён назад прапала яе цялушка. Трое сутак яна шукала яе па лесе і па навакольных вёсках. Хатняя жывёла апынулася аж у вёсцы Літва. Гаспадыні аб гэтым паведамілі мясцовыя жыхары.

А яшчэ Лідзія Ульянаўна расказала нам і паказала ў лесе невядомую магілу трох савецкіх салдат, якія ляжаць там яшчэ з вайны. "Неабходна іх пераэахаваць, бо з гадамі згубіцца ў лесе гэтае месца. Я нават цяпер яго з цяжкасцю знаходжу", — сказала вясковая жанчына.

### КАРШУНЫ І БАБРЫ

Заводны Лес можа і мае сваю назву з-за таго, што знаходзіцца ў самым лесе. Летам тут шмат расце баравікоў, ды і грыбнікі прыязджаюць не толькі са Слонімшчыны, але і з суседніх раёнаў. Недалёка ад вёскі ў гушчары працякае невялікая лясная рачулка. Там водзяцца бабры. Вельмі шмат у лесе каля вёскі Заводны Лес лятае каршуноў. Яны нападаюць на курэй і куранят. Каменем падаюць на дамашнюю птушку, забіваюць яе, пасля бяруць у лапы і ляцяць у лес. Больш-менш цяжкіх курэй ім падняць не ўдаецца, а вось з маладзенькімі каршуны спраўляюцца вельмі хутка.

Вяртаючыся з далёкай вёскі ў Слонім, падумалася: а што будзе з Заводным Лесам і іншымі падобнымі вёскамі праз пяць-дзесяць гадоў. Апусцеюць хаты, зарастуць травою агароды, што нават лясным каршунам не будзе да каго прыляцець.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

ПОЖАРНО-ПРИКЛАДНОЙ СПОРТ

# И ПОЛОСУ ПРЕПЯТСТВИЙ ПРОЙДУТ, И ПОЖАР ПОТУШИТЬ СУМЕЮТ

**Достойная смена растет у слонимских пожарных. И в прошлый четверг школьники продемонстрировали это наглядно.**

На стадионе средней школы №3 прошли соревнования пожарных дружин.

Ребята состязались в эстафете по программе пожарно-прикладного спорта.

И здесь нужно было продемонстрировать не только силу, скорость и выносливость, но и специфические навыки владения огнетушителем и пожарными шлангами, суметь в считанные секунды одеть «боевку» (рабочая форма пожарных).

Соревнования эти проводятся в Слониме уже не первый год и пользуются неизменной популярностью, ведь ребята, по сути, еще и получают профессию.

**Валерий КОВАЛЕНКО**





*Укрощение огня — не развлечение, а тяжёлый труд*

ІНТЭРВ'Ю З ЦІКАВЫМ ЧАЛАВЕКАМ

# Людміла КЛІМОВІЧ:
# "СТАРЭЙШАЕ ПАКАЛЕННЕ НЕ ВЕДАЕ СВАЁЙ ГІСТОРЫІ, ТАМУ СПАДЗЯВАЦЦА ТРЭБА НА НАШУ МОЛАДЗЬ"

**На Зялёнай вуліцы ў Слоніме жыве цікавая жанчына, была настаўніца роднай мовы і літаратуры Людміла Антонаўна Клімовіч. Людміла Антонаўна — родная сястра доктара навук, члена-карэспандэнта Нацыянальнай Акадэміі Навук, пісьменніка Алега Лойкі. А яшчэ Людміла Антонаўна вельмі любіць свой родны Слонім, добра ведае яго гісторыю і людзей. У яе доме часта бываюць беларускія літаратары, гісторыкі, педагогі, медыцынскія работнікі і простыя слонімцы.**



*Людміла Клімовіч, Уладзімір Караткевіч і аўтар кнігі "Помнікі Слоніма" Анатоль Кулагін у Слоніме, 1981г.*

На днях госцем у хаце Людмілы Клімовіч пабываў і наш карэспандэнт.

**— Людміла Антонаўна, ці адрозніваюцца чым-небудзь сённяшнія слонімцы ад слонімцаў 40-х —70-х гадоў?**

— Амаль што нічым, але... Да вайны ніхто ў Слоніме і ў навакольных вёсках ніколі не казаў брыдкіх слоў і не ведаў іх, я маю на ўвазе, матаў. І толькі пасля вайны, калі прыйшлі саветы, слонімцы пачалі мацюкацца. Пасля вайны ў Слоніме шмат было пустых яўрэйскіх дамоў, куды засяляліся "мяшэчнікі". А разам з "мяшэчнікамі" прыехалі і брыдкія словы.

**— Хто такія "мяшэчнікі"?**

— "Мяшэчнікамі" мы называлі людзей з Браншчыны, Смаленшчыны і з іншых усходніх абласцей, якія прыязджалі сюды па хлеб. У пустыя дамы ў Слоніме яны засяляліся і жылі, а з часам працаўладкоўваліся.

**— Няўжо там ім не было чаго есці?**

— Відаць, не было. Бо там савецкая ўлада гаспадарыла яшчэ да вайны. І вынікі яе — голад. Ды і гэта былі зусім іншыя людзі. У іх быў іншы погляд на жыццё, і яны вельмі адрозніваліся ад карэнных працавітых і сумленных слонімцаў. Ды і смяяліся яны з нашай мовы, нашай культуры, і з таго, што мы носім гальштукі. І Алег Антонавіч нават пад вянец пайшоў без гальштука, бо баяўся, каб з яго не смяяліся. Гэта былі людзі кволай культуры. Але што цікава, што ўсе яны атрымалі ў Слоніме працу.

**— Тым не менш, хлебам слонімцы з імі дзяліліся?**

— Вядома. У крыўду ўсходнікаў не давалі.

**— Якую школу ў Слоніме вы закончылі?**

— Першую беларускую школу. А калі адчынілася школа № 2, дык многіх вучняў клікалі туды. І тых, хто пераходзіў у другую школу, называлі русакамі. Мы з імі асабліва не сябравалі.

**— А якая на той час самая ганаровая і прэстыжная школа была ў Слоніме?**

— Наша першая беларуская школа, якую я закончыла ў 1950 годзе. Пакуль яна была БСШ — яна была заўсёды першаю, а цяпер гэта проста школа № 1. Калі з'явілася ў Слоніме школа № 2 — сталі яе ўзнімаць, а пасля сталі ўзносіць школу № 4. Прывяду прыклад. Кожны год сярод школ праходзіў конкурс мастацкай самадзейнасці. І, бадай што заўсёды, перамагала чацвёртая школа. Я тады працавала ў другой школе. І да нас у калектыў прыйшла новая настаўніца, якая выдатна арганізавала канцэрт. Але журы ў той год, калі выйграла другая школа, вырашыла першае месца не прысуджаць нікому. А чаму? Ды таму, што чацвёртую школу ўзначальваў Трафімовіч, а ён быў дэлегатам партыйнага з'езда ў Маскве.

**— А чаму вы не працавалі ў сваёй роднай першай школе, а ўсё жыццё аддалі другой?**

— У другой школе тады настаўніцай роднай мовы і літаратуры працавала Феафанія Лявонцьеўна Ракевіч. Яна пайшла ў раённы аддзел адукацыі і сказала: "Калі на маё месца вы не паставіце Людмілу Антонаўну Клімовіч, то я на пенсію не пайду". І мяне прызначылі на яе месца.

**— Людміла Антонаўна, ці памятаеце вы каго-небудзь з творчай інтэлігенцыі ваеннага часу ў Слоніме?**

— Не, акрамя паэта Сяргея Новіка-Пеюна. Асабліва мне падабалася яго песня "Зорачкі". І пазней на адным школьным мерапрыемстве я яе агучыла, дык усе настаўнікі пыталіся: дзе я ўзяла такую шчымлівую цудоўную песню.

**— Давайце яшчэ раз вернемся ў той час, калі вы вучыліся ў першай школе. Сёння вашы аднакласнікі і старэйшыя на год-два, і крыху маладзейшыя выпускнікі гэтай школы даволі вядомыя людзі ў Беларусі. Няўжо тады былі лепшыя настаўнікі, чым сёння?**

— Найперш, справа не толькі ў настаўніках, але ў саміх вучнях. Я лічу, што тады ішлі вучыцца тыя, хто хацеў. Бывала прыйдзеш зімою ў клас, яшчэ цёмна, а ўжо сядзяць за партамі з Дзеравянчыц Дуброўская, з Разанаўшчыны Барысікі, з Чамяроў Іван Чыгрын і іншыя хлопцы і дзяўчаты. Ды і пытанні ў школе наконт дысцыпліны наогул не разглядаліся. Усе хацелі вучыцца, усе з вялікім задавальненнем слухалі кожнае слова таго ж Пятра Сцяпанавіча Закржэўскага і іншых настаўнікаў. І пасля школы амаль усе выпускнікі паступалі ў вышэйшыя навучальныя ўстановы.

**— Які вам Слонім больш падабаецца: сённяшні ці дваццаць-трыццаць гадоў назад?**

— Пасля вайны Слонім быў у руінах. Я памятаю, як танкамі разбівалі сабор у цэнтры горада. А пасля на яго месцы пабудавалі павільён "Ветерок". Тым не менш, мне здаецца, што раней цэнтр горада заўсёды быў чыстым, а зімою яго ачышчалі ад снегу.

**— Людміла Антонаўна, вы ганарыцеся тым, што ваш бацька ў Слоніме быў вядомым доктарам, а родны брат — літаратарам?**

— Вельмі гэтым ганаруся. У бацькі было шмат сяброў, знаёмых. Ды і ў Алега Антонавіча цяпер таксама шмат сяброў не толькі ў Беларусі, але і ў іншых дзяржавах.

**— Ці памятаеце той час, калі з друку выйшла першая кніга Алега Лойкі?**

— Бацька наш быў маўклівым, а вось мама, як і я з Алегам, вельмі была гаваркая. Але бацька ўмеў выслухаць другіх людзей, не перабіваў іх ніколі. А пасля вельмі стрымана выказваў сваю думку. Але па ім было відаць, чым ён задаволены, а чым не. Першаю кнігаю Алега і яго творчасцю ён дужа ганарыўся. Але першым рэцэнзентам вершаў Алега была ўсё ж мама. Яна і завяла яго з вершамі да Сяргея Міхайлавіча Новіка-Пеюна, які станоўча ацаніў яго творы.

**— Людміла Антонаўна, вас яшчэ ведаюць, як былую артыстку Слонімскага народнага тэатра...**

— Калі я вучылася ў першай школе, то ў нас быў свой тэатр, які ставіў розныя спектаклі па п'есах беларускіх і рускіх драматургаў. Там я таксама іграла. І калі прыехаў у Слонім Фрыдман, ён многіх запрасіў у народны тэатр. А пасля тэатрам стаў кіраваць Мікалай Варвашэвіч. Тэатр у той час наведвала ўсё тая ж Феафанія Ракевіч, якая мяне прывяла ў тэатр на ролю Альжбеты. Яна прапанавала Мікалаю Варвашэвічу:" Я іграю ў спектаклі "Паўлінка" Агату, але ў мяне ёсць сяброўка на ролю Альжбеты". І той пагадзіўся. Так я апынулася ў тэатры. Дарэчы, Анатоля Цярэніна яна прывяла на ролю Якіма Сарокі.

**— І апошняе пытанне да вас, Людміла Антонаўна: які лёс чакае наш народ і нашу дзяржаву? Хочацца пачуць вашу асабістую думку.**

— Раней я зусім зняверылася ў светлае будучае нашай краіны. Таму што старэйшае пакаленне беларусаў зусім не ведае сваёй гісторыі, ды і не цікавіцца ёю. Яны так і кажуць:" А, навошта нам гэта! Абы каўбаса была танная... ". Але цяпер многія разумеюць на трасянцы з матамі і каўбасы таннай няма. І ў гэтым амаль усе пераканаліся. Мне некалі па-беларуску слова не давалі сказаць — заўсёды пярэчылі. А цяпер — не. Цяпер людзі пачынаюць разумець, што каўбасою шчаслівымі краіну і людзей не зробіш. Ды і моладзь у школах ужо па-іншаму глядзіць на сённяшні час. Яна з павагаю адносіцца да сваёй гісторыі, мовы, народных традыцый і свят. Вырастае новае пакаленне. І яно, верыцца мне, адродзіць нашу дзяржаву.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

ЗЕЛЬВА

## ОТДОХНУЛИ

**Наконец на улицах видны радостные лица – это весна. И как приятно вместе с друзьями пройтись по нашему городу.**

Особенно, если ты молод, если еще все в жизни только-только начинается. А впереди – много весенних праздников, связанных с приятными эмоциями и впечатлениями. Хорошо бы, чтобы они тянулись подольше...

А весело провести время студенты умеют. Вот уже 3-й год подряд студенты Минских ВУЗов (в основном, БГУ и БГУиР) отдыхают на базе отдыха в Зельве.

Очень полюбились им наши места: лес, водохранилище, лесные озера и др. Вот и в очередной раз майские праздники с 1 по 6 мая ребята отдыхали в Зельве, сидели у костра, пели песни под гитару, организовывали экскурсии по местным достопримечательностям.

Как сказал руководитель группы Александр Александров (БГУиР), он отдыхает в Зельве каждый год с 1991 года, очень полюбилось ему это место.

**Б.П.**

МАСТЫ

## ПРЫНЯЛІ ЎДЗЕЛ

**У Гродне адбыліся абласныя спаборніцтвы юных інспектараў дарожнага руху.**

Масты прадстаўляла каманда мясцовай гімназіі, якая выйшла пераможцай на раённых спаборніцтвах. Юныя інспектары на працягу трох дзён змагаліся ў фігурнай яздзе на веласіпедзе, разборцы і зборцы яго, веданні правілаў дарожнага руху ды іншых дысцыплінах.

У конкурсе ўдзельнічала каля дваццаці камандаў з усіх раёнаў вобласці.

У выніку, у камандным заліку мастаўчане занялі агульнае дзевятае месца.

**Антон МАКЕЙ**

БАРАНОВИЧИ

## НОВУЮ МОДЕЛЬ ТОКАРНОГО СТАНКА ИЗОБРЕЛИ КОНСТРУКТОРЫ

**На Барановичском заводе автоматических линий изобретена новая модель токарного станка.**

Как утверждают конструкторы завода, аналогов ему в Беларуси нет. Сотрудники конструкторского бюро предприятия Казимир Бутрим и Виктор Дедов модернизировали колесно-токарный станок USB-125 фирмы "Рафамед", оснастив имеющуюся модель программным числовым управлением.

Новый станок, по мнению специалистов, позволит увеличить рабочий ресурс вагонного колеса на 40 процентов, поскольку теперь можно сделать более точные замеры, а обточку колеса провести восемь раз вместо обычных пяти.

**БелаПАН**

ГРОДНО

## ДЕЛЕГАТЫ ИЗ БЕЛОСТОКА

**Завершился двухдневный визит в Гродно делегации предпринимателей из Белостока (Польша).**

12 предпринимателей, белорусов по происхождению, владеющих средним и крупным бизнесом, ознакомились с условиями вступления в свободную экономическую зону "Гродноинвест". Прошли также встречи с предпринимательскими организациями Гродно. Самой важной, по оценке организаторов, была встреча с гродненскими предпринимателями, состоявшаяся в помещении "Фонда имени Льва Сапеги".

"Более двух часов наши и польские предприниматели обсуждали возможности сотрудничества и договаривались о реальных проектах", — сообщил БелаПАН председатель фонда Владимир Хильманович.

Это был ответный визит польских предпринимателей в Гродно. 13 гродненских предпринимателей посетили Белосток в середине декабря прошлого года. В рамках этого визита были достигнуты договоренности в сферах пищевой промышленности и деревообработки; работа над ними продолжилась и на нынешней встрече.

Организаторами визита с белорусской стороны выступило областное отделение "Фонда имени Льва Сапеги", с польской — общественная организация "Центр Польша — Беларусь".

**Ирина ЧЕРНЯВКА**

МАСТЫ

## УШАНАВАЛІ ВЕТЭРАНАЎ

**9 мая ў Мастах адбылося традыцыйнае шэсце ветэранаў. За гадзіну да пачатку мерапрыемства рабочыя памалявалі флагшток ля раённага дома культуры, затым міліцыя перакрыла рух па Савецкай.**

Збор удзельнікаў урачыстасці быў прызначаны ў самім ДК. Зараз у раёне налічваецца 278 ветэранаў, з іх 81 жывое ў горадзе. Усе яны сталага ўзросту, і таму на святкаванне з'явілася толькі некалькі дзесяткаў.

Калону ўзначальвалі юныя барабаншчыкі з раённай музычнай школы. У мерапрыемстве прынялі ўдзел старшыня райвыканкама Аляксандр Кісялёў, дэпутат палаты Прадстаўнікоў Генадзь Дылеўскі. Калона прайшла ад ДК да помніка Жукаву з невялікім прыпынкам ля помніка Леніну.

Тут адбыліся асноўныя мерапрыемствы з удзелам кіраўнікоў раёна, праваслаўнага святара, грамадскасці.

## ЗМЕНА ЛІДЭРА

**На чарговым справаздачна-выбарчым сходзе ў Мастоўскай раённай арганізацыі Партыі камуністаў Беларусі адбыліся змены ў кіраўніцтве.**

Пасаду кіраўніка заняў Аляксандр Пудаўкін з Лунна. Ён змяніў Мікалая Ляхава, які ўзначальваў арганізацыю амаль на працягу дзесяці гадоў.

**Антон МАКЕЙ**

ГРОДНО

# НА МИТИНГЕ РАЗДАВАЛИ КАПУСТУ




*Участники акции. 11 мая. г. Гродно*

**11 мая в Гродно — на площади Ленина — прошел официальный митинг, посвященный Дню Государственного герба и Государственного флага Республики Беларусь, во время которого члены незарегистрированного молодежного объединения "Разам" провели свой перформанс.**

Два человека в майках с надписями "Я пришел сюда добровольно" развернули транспарант "Да здравствует госсимволика!". После этого еще около десятка молодых людей стали раздавать капустные листья участникам митинга.

"Я бы поехал сегодня на дачу сажать капусту, но у меня нет денег на бензин, чтобы доехать. А потому я пришел сюда, чтобы поблагодарить нашего дорогого президента за такие красивые госсимволы", — заявил в интервью БелаПАН участник акции, член организации "Разам", Рыгор Ковальчук.

На официальном митинге присутствовало около 3 000 человек, в основном, школьники и студенты. Митинг длился около получаса, и на протяжении всего этого времени продолжалась акция с раздачей капустных листьев. Сотрудники милиции не задержали никого, они сначала отобрали транспарант, а затем вернули его участникам акции. "Молодежь нас приняла хорошо, реагировала весело, — сказал Рыгор Ковальчук. — Только милиционеры реагировали неадекватно".

**Справка БелаПАН.**

День Государственного герба и Государственного флага Республики Беларусь отмечается в Беларуси каждое второе воскресенье мая. Установлен в ознаменование республиканского референдума 14 мая 1995 года, на котором была принята новая символика страны (вместо бело-красно-белого флага и герба "Пагоня"), а русский язык получил статус государственного.

**Ирина ЧЕРНЯВКА**

БАРАНОВИЧИ

## ШКОЛЬНИКИ УТВЕРЖДАЮТ, ЧТО ИХ ЗАСТАВЛЯЮТ ВСТУПАТЬ В БРСМ ПРОТИВ ИХ ВОЛИ

**За последние три недели число членов Барановичской организации общественного объединения "Белорусский республиканский союз молодежи" (БРСМ) выросло более чем в семь раз.**

Как сообщила БелаПАН председатель региональной организации БРСМ Елена Клишевская, "это — результат агитационной работы, проведенной информационными группами БРСМ в школах".

Однако ученики и их родители утверждают обратное. "В нашей школе идет усиленная агитация за вступление в БРСМ. Я не хочу становиться членом этой организации, но учителя открыто говорят, что тем, кто не вступит в БРСМ, будет гораздо сложнее сдавать экзамены, — сообщил выпускник одной из местных школ Дмитрий, не пожелавший назвать свою фамилию. — Многие ребята боятся низких баллов и вынуждены становиться членами организации вопреки своей воле".

Родители, в свою очередь, обеспокоены тем, что их детям никто даже не объясняет, какие цели и задачи ставит эта организация. "Наверно, в БРСМ есть немало хорошего, — допускает Виктор Иванов, отец одного из барановичских школьников, — и я, скорее всего, не был бы против вступления ребенка в эту организацию, если бы ее лидеры честно объяснили, что БРСМ финансируется из президентского фонда и поэтому будет подчиняться непосредственно главе государства. Представители "Молодого фронта" или "Зубра", например, рассказывают о своей политической направленности. А в данном случае, получается, что наших детей, не объяснив сути дела, лишили права выбора и обманным путем навязали членство в союзе молодежи. Или информация о членстве в этой организации, как когда-то информация о членстве в комсомоле, будет заноситься во все личные дела?"

Многие директора школ, в которых сейчас идет усиленная агитация за вступление в БРСМ, смотрят на происходящее спокойно.

Так, например, директор гимназии №3 Владимир Разумович считает, что если альтернативы этой организации нет, то "пусть будет хоть БРСМ".

А директор школы №14 Николай Рудой настроен скептически: "Все, что создается насильственным путем, долго не проживет".

**БелаПАН**

МАСТЫ

## ПАКУТЛІВЫЯ ДЗВЕРЫ

**Другі тыдзень зачынены цэнтральны ўваход у будынак дома Саветаў.**

Наведвальнікі і супрацоўнікі вымушаны заходзіць праз запасны ўваход. Справа ў тым, што ўлады вырашылі паставіць новыя вонкавыя ўваходныя дзверы. Дзверы адпавядаюць еўрастандарту, і па ацэнках спецыялістаў кошт аднаго квадратнага метра складае каля 150 даляраў. Па іх меркаванню, агульны кошт дзвярэй і працы па іх устаноўцы абыдзецца раённаму бюджэту ў добрую капейку.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

## БУДЗЕ ЛАГЕР

**На вучэбна-даследчай базе Дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка "Чарлёна", што ля вёскі Лунна, адбылася сустрэча рэктара гэтай навучальнай установы і кіраўніцтва раёна.**

Была дасягнута дамоўленасць, што ўлетку там будзе лагер адпачынку мастоўскіх школьнікаў. Будзе працаваць адна змена, дзе папраўяць здароўе 50 хлопчыкаў і дзяўчынак.

У другую змену прыедуць самі студэнты для правядзення даследаванняў.

**Антон МАКЕЙ**

ГРОДНО

## ПОЛУЧИЛ ПИСЬМО С УГРОЗАМИ

**Письмо с угрозами получил 7 мая председатель гродненского регионального общественного объединения "Ратуша" Александр Милинкевич.**

Письмо подписано официально не существующей организацией — гродненским отделением Русского национального союза. Его авторы обвиняют руководителя "Ратуши" в том, что он "по локоть запустил руку в чужой карман" и грозят бить Милинкевича "смертным боем и вешать на первом фонаре". Свою угрозу анонимные авторы обещают осуществить после 12 мая.

Письмо было брошено без конверта в почтовый ящик квартиры, где живет Александр Милинкевич. Из ящика его достал 14-летний сын председателя "Ратуши".

"Я не знаю, как к этому относиться, — сказал А. Милинкевич в интервью БелаПАН. — Запугать — явная цель. И этой цели авторы письма не достигли".

Что касается даты 12 мая, упомянутой в письме, то Милинкевич предположил, что это может быть предварительная дата первого судебного заседания по иску о ликвидации "Ратуши", которая ему самому пока не известна.

Иск о ликвидации "Ратуши" направило в хозяйственный суд гродненское областное управление юстиции. Поводом для иска стали два официальных предупреждения, вынесенные на протяжении года за использование не зарегистрированного в установленном порядке ризографа.

**Ирина ЧЕРНЯВКА, БелаПАН**

АПАВЯДАННЕ

# ДЗВЕ КАПЫ СЕНА

Самыя раннія на вёсцы даяркі. Яшчэ жаўрук не зазвоніць у паднябессі, а яны ўжо на нагах. Яны заўжды адкрываюць вароты працоўнаму дню. Сёння з імі разам падняўся Сяргей Іванавіч Боб, старшыня калгаса "Пагодная". Вунь яго сусед з калгаса "Уперад" Янкоўскі штодзённа раніцою да васьмі гадзін раніцы пабрыгадна босы абыходзіць палеткі (а ў калгасе пяць брыгадаў). Боты, звязаныя за вушкі шнурком, нясе на плячы. Гаворыць: хадзіць па ранняй расе — карысна для здароўя.

Надумаўся і Сяргей Іванавіч змяніць стыль работы. Таму ён сягоння рашыў сустрэць усход сонца за сталом свайго кабінета, прыкінуць, памеркаваць, як перайначыць методыку кіравання.

Праўда, аднаму такую глыбіню не зрушыць, але пачынаць трэба. І не калі-небудзь, а цяпер, нават, можа, і сягоння. Якая карысць з таго будзе — пакажа час. Бяда толькі, што надзейных памочнікаў, якія падтрымалі б яго, дапамагалі яму, няма. На словах усе за, а як крута прыйдзецца — усе ў кусты. З яго аднаго будзе спрос, аднаму давядзецца галаву падстаўляць. У раёне трох старшыняў людзі пагналі. Ды што далёка хадзіць. Мінулай вясной у час пасяўной тут, у калгасе, трактарысты к абеду прыгналі трактары да канторы, паселі каля трактароў і кураць. Хутка да іх далучыліся даяркі цэнтральнай фермы. А праз гадзіну клуб быў біткам запоўнены калгаснікамі. Прыехаў нават старшыня райвыканкама. І ўсе вымаўлялі адно адзінае слова "вон". Вытраслі ўсю душу ў Шчарбатага (такое прозвішча меў папярэднік Сяргея Іванавіча) навывараг: як да людзей адносіўся, як зарплату ўразаў, як трактары і камбайны прадаваў яшчэ прыгодныя сваякам і сябрам. Закончыўся бунт тым, што Шчарбаты аддаў ключы ад кабінета і службовай машыны свайму намесніку. У райгазеце з'явіўся артыкул "Навальніца над Пагоднай".

Сяргей Іванавіч непакоіцца, каб і яго не напаткаў такі ж лёс. Лёгка сказаць: змяніць стыль кіравання. А з чаго пачаць? Дзе тая нітачка, каб ухапіцца за яе і разматаць клубок. Ужо другую гадзіну сядзіць старшыня ў кабінеце. Думае — не думае, але сядзіць. А ў галаве мітусня, вэрхал. Учора адбыўся раённы семінар на базе калгаса "Расія", то пасля семінару лягчэй не думаць, чым думаць.

У прыёмнай зазвінеў тэлефон. Там дыспетчарскі пульт, а дыспетчарам — жонка. Ад званка ні адна жылка ў Сяргея Іванавіча не зварухнулася. У кабінет зайшла жонка, яна з парога аб'явіла:

— Заўтра прыязджае першы сакратар Рудзенка, будзе глядзець, колькі сена нарыхтавана. Аня званіла.

Ніякай рэакцыі на паведамленне жонкі. Тая заззлавала:

— Ды ты апрытомней, заўтра выганіць з калгаса цябе Рудзенка: ні травінкі ў цябе не завезена, а ты, як рыба без вады.

— Хай лепей Рудзенка здыме, чым людзі пагоняць. Ён здыме, то недзе месца дасць. А як людзі пагоняць, то, як Шчарбаты, буду ў кар'еры пясок выдаваць. Ды двайм у адным кар'еры не ўмясціцца.

— Дурань, — толькі ўсяго знайшла што сказаць жонка, завярнулася і ляпнула дзвярыма.


Малюнак Яўгена ІВАНОВА

Сяргей Іванавіч праз гадзіну выйшаў у прыёмную і сказаў жонцы, каб тая паведаміла брыгадзіру і яго брату шафёру, што на дванаццаць гадзін іх хоча ён бачыць у кабінеце, і тыя роўна ў дванаццаць гадзін з'явіліся на прыём да старшыні, а праз гадзіну, як усе канторскія пайшлі на абед, выйшлі і яны з кабінета. Выйшлі ў добрым настроі. На ганку падморгнулі адзін аднаму і разышліся, спяшаліся дадому на абед. Антонава кабылка стаяла за вуглом канторы, прывязаная да яблыні. Сцяпан ледзь не подбегам рушыў да майстэрняў, дзе стаяў яго ЗІЛ.

Вечарам хлопцы дамоў прыпазніліся: з'явіліся каля поўначы, патлумачылі, што дапамагалі старшыні ў гаражы парадак наводзіць, склеп муравалі.

Павольнаю хадою крочыць па сцяжынцы, пратаптанай цераз поле, дзе тры гады таму яшчэ шумеў калгасны сад, што злучае з дзесяці хатак вёску Дуднікі з вёскаю Пагодная, цэнтрам калгаса з такой жа назваю, як і вёска, пажылы, сямідзесяцігадовага ўзросту чалавек, удзельнік апошняй вайны Іван Францавіч. У яго кроках адчуваецца яшчэ не растрачаная за пражытыя гады сіла. Нясе ён у руцэ пустую палатняную торбачку. Ідзе ён у магазін купіць хлеба. Да абеду ён павінен быць дома: прыедуць сыны Антон і Сцяпан. Антон, старэйшы, працуе брыгадзірам. Сцяпан, маладзейшы, — шафёр, ездзіць на самазвале, на ЗІЛе. Антон жанаты. Яго сям'я: жонка і два сыны-вучні. Старэйшы ўнук закончыў сёлета дзевяць класаў, малодшы — восем.

Недалёка, справа, так з кіламетр ад сцяжынкі, ляжыць дарога, якая на поўначы злучае Пагоднае з цэнтрам суседняга калгаса імя Мічурына, адкуль яна разгаліноўваецца налева — на захад — у райцэнтр, на ўсход — у мястэчка, дзе ёсць чыгуначная станцыя. Адлегласць як да райцэнтра, так і да чыгуначнай станцыі амаль аднолькавая: каля дзесяці кіламетраў.

**Мікола ГРЫШАН,**

**(працяг у наступным нумары)**

ПАЭЗІЯ

Любовь ГУНДАРЬ,
*11 класс СШ №3*



## Когда тебя со мною рядом нет

*Когда мне страшно, я тебя зову.*
*Мне кажется,*
*что ты меня услышишь.*
*Когда мне больно, я к тебе иду,*
*Но жаль,*
*что ты меня не видишь.*
*Когда тебя со мною рядом нет,*
*Невольно появляется слеза,*
*А ранний голубой рассвет*
*Напоминает мне твои глаза.*
*Когда приходит злая ночь*
*И глухо давит на виски,*
*Когда не в силах больше мочь*
*И умираю от тоски,*
*Когда льют за окном дожди —*
*Я, как пылающий огонь,*
*слабею,*
*И я прошу тебя: «Приди!*
*Я до сих пор тобой*
*одним болею...»*

Валерый САКАЛОЎ

## Птушка

*Падбітыя крылы,*
*Грудны цяжкі крык.*
*Як цэпам, схапіла*
*Няўмольная сіла*
*Сярод буйных крыг.*
*Схапіла, трымае,*
*Не хоча пускаць.*
*Сіл птушка не мае,*
*Чагосьці чакае,*
*А што ёй чакаць?*
*Чужой дапамогі*
*Ці ласкі нябёс?*
*Навокал астрогі,*
*І позіркам строгім*
*Глядзіць яе лёс.*
*Бяссільная птушка*
*Загубленых дзён*
*Ляжыць там, дзе сцюжа,*
*Крывавая лужа,*
*Дзе ява, як сон.*
*А ў сне тым пачвары,*
*А ў сне толькі жах.*
*Яе клічуць хмары,*
*Аб іх толькі мары*
*І неба ў вачах.*

Валерык АРОЧКА,
*вучань Сялявіцкай СШ*

## Родная мова

*Жаўруковым званочкам*
*звініш ты ў небе,*
*Пахнеш аерам і медуніцамі,*
*А ў лесе — жывіцаю ды суніцамі,*
*А ў хаце —*
*духмяным боханам хлеба.*
*Я слухаю:*
*колькі ў табе мілагучнасці,*
*Каханая, калі ласка,*
*мая журавінка,*
*Заходзь у святлічку,*
*будзь гаспадынькай.*
*Ты ўся ў адзінай*
*крылатай лучнасці.*
*Узгадаваны табой я,*
*адзінай, роднай.*
*Табой ганьбаваць*
*на зямлі маёй годзе!*
*Ты застанешся,*
*як мама, пяшчотнай,*
*І ў дваццаць першым стагоддзі.*

ПОЭЗИЯ

Николай ГРИГОРЬЕВ

## Жизнь по шаблону

*Жизнь безлика, монотонна,*
*Нету в жизни интереса,*
*Все мы словно из бетона,*
*Из единого замеса.*

*Каждодневно, ежечасно*
*Мы вдыхаем воздух грязный.*
*Скучно, серо и бесстрастно*
*Жизнь течёт однообразно.*

*Жизнь проста на удивленье,*
*По какому-то закону*
*Мы все с самого рожденья*
*Существуем по шаблону.*

*Рано утром встаём дружно,*
*Чаем утолив икоту,*
*Может это и не нужно,*
*Но спешим мы на работу.*

*На работе свою смену,*
*Кто в цеху, а кто с лопатой*
*Отбываем за бесценок,*
*За ничтожную зарплату.*

*По гудку все эти годы,*
*В перерывах мы всем миром*
*Поглощаем бутерброды,*
*Запивая их кефиром.*

*После смены мы по «хазам»,*
*Как клопы и тараканы,*
*Разбегаемся все сразу —*
*Ждут нас кресла и диваны.*

*И уткнувшись носом в «телик»,*
*Смотрим фильмик заграничный;*
*Наша жизнь скучна, как веник,*
*Как обмылок, прозаична.*

*Поутру, зевая сонно,*
*Всё по замкнутой спирали*
*Повторяемся шаблонно.*
*Жизнь изменим мы едва ли...*

## Эх, как хочется!

*Эх, как хочется ударить по газам*
*И на миг один*
*забыть про тормоза,*
*И чтоб ветром*
*хлестануло по глазам,*
*Так, чтоб вырвалась солёная слеза.*
*Эх, как хочется*
*рвануть с места в карьер*
*И на миг забыть*
*про строгость жёстких мер,*
*За барьером брать,*
*шутя, другой барьер,*
*Всё и вся вокруг*
*скроить на свой манер.*
*Эх, как хочется*
*порой пойти на риск,*
*Наплевать на тормоза,*
*их жуткий визг,*
*Всему миру предъявив*
*свой личный иск,*
*Расшибиться в одночасье*
*сходу вдрызг.*

ПАЭЗІЯ

Іван ЦІМАФЕЙЧЫК

## Гімн журналісту

*Верш-песня*

*Я пяро навастру...*
*Мне не трэба асобых рэгалій!*
*І на пост баявы*
*заступлю, бы салдат,*
*каб мой край не таптаў,*
*не глуміў, не паганіў,*
*не чыніў люду здзек*
*прайдзісвет-бюракрат.*

**Прыпеў:**
*Журналіст! Журналіст!*
*Ты пасланнік ад самага Бога...*
*Абавязак твой правы,*
*пачэсны,*
*святы.*
*Закілзаем каня —*
*чуеш, кліча ў паход нас дарога...*
*Рэчаіснасцю-праўдай*
*наш шлях*
*асвяці...*
*Рэчаісна — цярністы*
*наш шлях асвяці.*

*Я не кіну свой пост,*
*пакуль прыхвасні ходзяць,*
*пакуль поўніцца здзекамі*
*Белая Русь,*
*пакуль людзі-браты*
*жыць не стануць у згодзе,*
*пакуль згнаннікам будзе*
*мой брат-беларус.*

**Прыпеў.**

*Не асудзьце мяне*
*пакараннем суровым:*
*на пасту баявым*
*рызыкую парой...*
*Бой няроўны вяду,*
*у рукапашны гатовы...*
*І на дзот бюракрата*
*імчу я з пяром.*

**Прыпеў.**

*А калі я ўпаду,*
*крывадушшам сказнённы,*
*і праз рану прарвецца*
*хрыпотны мой свіст,*
*баявое пяро —*
*журналісцкую зброю —*
*у атаку ўзніме*
*мой брат-журналіст.*

**Прыпеў:**
*Журналіст! Журналіст!*
*Ты пасланнік ад люду,*
*ад Бога...*
*Абавязак твой правы,*
*пачэсны, святы...*
*Сабірайся ў паход,*
*паднімайся ў дарогу!*
*Рэчаіснасцю-праўдай*
*наш шлях асвяці.*
*Сабірайся ў паход,*
*паднімайся ў дарогу!*
*Рэчаіснасцю-праўдай*
*наш шлях асвяці.*

Наталья НАГУЛОВА

## Позвони

*Если ты вдруг заскучаешь —*
*Вспомни, милый, обо мне.*
*Позвони, не пожалеешь,*
*Не топи печаль в вине.*
*Расскажи свою обиду,*
*Грустью с другом поделись.*
*Станет сразу тебе лучше,*
*Позвони, не ленись.*
*Расскажу тебе я сказку*
*Или песенку спою,*
*Всё, что только пожелаешь,*
*Только позвони, молю.*
*Не забудь —*
*средь дней ненастных*
*Друг есть верный у тебя.*
*Если ты вдруг заскучаешь,*
*Позвони, прошу тебя.*

ФУТБОЛ. ПЕРШАЯ ЛІГА

# НА СВАІМ ПОЛІ СЛОНІМЦАМ ПРАЙГРАВАЦЬ БЫЛО СОРАМНА

**"КАМУНАЛЬНІК" (СЛОНІМ) — ФК "ЛІДА", 1:0**

**10 траўня. Слонім. Стадыён "Юнацтва". 3 000 гледачоў.**

**Суддзя: А. Жукаў (Мінск)**
**"Камунальнік":** Канашэвіч, Скляр, Плют, Горбач, Асіпенка, Місюк, Срыбненка, Цішчанка, Варанцоў (89, Зюлеў), Аначэнка (57, Яўсеенка), Цыганенка (58, Пазняк).
**Гол:** 71, Срыбненка.
**Удары па варотах:** 10 (6+4) — 4 (2+2).
**Фалы:** 14 (8+6) — 15 (10+5).
**Вуглавыя:** 5 (5+0) — 5 (0+5).



*Так выглядала гульня з-за варот "Ліды" у першым тайме*

Пасля паражэння ў трэцім крузе ад мастоўскага "Нёмана" "Камунальніку" патрэбна было рэабілітавацца перад сваімі балельшчыкамі. Атрымалася гэта выдатна, і лік гульні (1:0) ніякім чынам не адлюстроўваў рэальнага становішча на полі.

Першы тайм атрымаўся відовішчным, багатым на галявыя моманты, якія, на жаль, так і не прывялі да галоў. Тым не менш, слонімская каманда выглядала, у параўнанні з папярэднім матчам, на галаву вышэй. Трывалая гульня ў абароне падмацоўвалася хуткімі праходамі паўабаронцаў "Камунальніка" па флангах, актыўнымі дзеяннямі наперадзе Цыганенкі і Місюка.

Шэсць разоў мелі слонімцы ў першым тайме магчымасць праверыць на трываласць варатара гасцей. Гэты экзамен ён вытрымаў, чаго не скажаш пра абарону лідчан.

Раз-пораз футбалісты "Ліды" правальваліся, дазваляючы нападаючым "Камунальніка" набліжацца да сваіх варотаў. Не лепшым чынам дзейнічалі і форварды "Ліды". Толькі двойчы здолелі яны ўдарыць па варотах Канашэвіча — і тое безвынікова.

Трэба адзначыць, што трэнерскі штаб слонімцаў здолеў удала падгадаць са складам каманды на гульню. Моладзь "Камунальніка" проста рвалася ў бой. Не сапсавалі гульню і праведзеныя ў другім тайме замены. Яўсеенка і Пазняк толькі дабавілі вастрыні ў дзеяннях слонімцаў наперадзе.

Вынікам гэтага стаў гол-прыгажун, які ўляцеў у вароты лідчан на 71-й хвіліне матчу.

Навес з правага флангу атакі гаспадароў поля прыняў амаль на лініі варот паловы поля саперніка нападаючы "Камунальніка", скінуў мяч у штрафную плошчу. А там ужо хутчэй за ўсіх аказаўся Срыбненка. Яго ўдар варатар гасцей адбіць не здолеў.

Лік 1:0 пратрымаўся да заканчэння гульні, нягледзячы на ўсе намаганні лідчан "размачыць" вароты Канашэвіча. Сама гульня спадабалася сваім настроем і якасцю. Увогуле, у мінулую суботу "Камунальнік" атрымаў цалкам заслужаную перамогу. Ды й сорамна было прайграваць на сваім полі.

**Валерый КАВАЛЕНКА,**
**Аляксандр ШЭЛАХОНАЎ (статыстыка)**



*Яшчэ хвілінка, і мяч мог трапіць у вароты гасцей*



*У атацы Андрэй Місюк (на фота злева)*

**ВЫНІКІ МАТЧАЎ 3-ГА ТУРА:**

Нёман — **Камунальнік**, 3:1
Вертыкаль — Лакаматыў, 0:1
Пінск-900 — МТЗ-РЫПО, 0:1
Бяроза — ЗЛіН, 1:4
Ліда — Граніт, 0:0
Хімік — Ведрыч-97, 2:1
Дынама-Юні — Днепр-ДЮСШ-1, 1:2
Тарпеда-Кадзіна — Смаргонь, 1:0

**ВЫНІКІ МАТЧАЎ 4-ГА ТУРА:**

Днепр-ДЮСШ-1 — Тарпеда-Кадзіна, 0:1
МТЗ-РЫПО — Смаргонь, 1:2
Лакаматыў — Дынама-Юні, 5:1
Ведрыч-97 — Вертыкаль, 3:0
Граніт — Хімік, 2:1
ЗЛіН — Нёман, 4:1
Пінск-900 — Бяроза, 0:1

## ЦИФРЫ ПО ПОВОДУ

• В третьем туре в игре против «Немана» слонимский «Коммунальник» провел в ворота соперника 400-ый мяч. Забил его, правда, в свои ворота капитан мостовчан Коцко.

• В Мостах свой 65-й матч за клуб провел Оначенко. Горбач там же сыграл свою 50-ю игру за «Коммунальник», а Тищенко — тридцатую.

• Пятую сотню голов «Коммунальника» открыл в игре против ФК «Лида» Поздняк.

• Матч против лидчан стал 20-ым за клуб у Скляра, 40-ым — у Евсеенко, 50-ым — у Мисюка и 25-ым — у Осипенко.

• В прошлую субботу отметились и еще два слонимских футболиста. Срибненко провел свой 20-ый матч в первой лиге, а Тищенко — 55-ый.

**Александр ЗАХАРЕНКО**

## Турнірная табліца пасля 4-га тура

| | | гульні | В | Н | П | ачкі | мячы |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | ЗЛіН | 4 | 4 | 0 | 0 | 12 | 11-2 |
| 2. | Смаргонь | 4 | 3 | 0 | 1 | 9 | 8-2 |
| 3. | Граніт | 4 | 2 | 2 | 0 | 8 | 6-1 |
| 4. | Лакаматыў | 4 | 2 | 1 | 1 | 7 | 7-4 |
| 5. | Камунальнік | 4 | 2 | 1 | 1 | 7 | 3-3 |
| 6. | Ведрыч-97 | 4 | 2 | 0 | 2 | 6 | 7-4 |
| 7. | МТЗ-РЫПО | 4 | 2 | 0 | 2 | 6 | 4-4 |
| 8. | Тарпеда-Кадзіна | 4 | 2 | 0 | 2 | 6 | 4-4 |
| 9. | Нёман | 4 | 2 | 0 | 2 | 6 | 5-9 |
| 10. | Хімік | 4 | 1 | 2 | 1 | 5 | 4-4 |
| 11. | Днепр-ДЮСШ-1 | 4 | 1 | 2 | 1 | 5 | 2-2 |
| 12. | Бяроза | 4 | 1 | 2 | 1 | 5 | 2-4 |
| 13. | Ліда | 4 | 1 | 1 | 2 | 4 | 3-4 |
| 14. | Дынама-Юні | 4 | 1 | 0 | 3 | 3 | 4-13 |
| 15. | Вертыкаль | 4 | 0 | 1 | 3 | 1 | 0-5 |
| 16. | Пінск-900 | 4 | 0 | 0 | 4 | 0 | 0-5 |

ФУТБОЛ. АНОНС

## ЕДЕМ В ГОСТИ В СВЕТЛОГОРСК

**«Химик» (Светлогорск) — «Коммунальник» (Слоним).**

**17 мая (суббота). Светлогорск. Стадион «Бумажник».**

**Баланс встреч:** +6=2-7, мячи 19:25 (в Светлогорске — +3=1-3, мячи 12:11).
**Последние игры:** 29.06. 2002г., Светлогорск — 0:1 (Оначенко); 13.10.2002 г., Слоним — 0:2 (Вольский — 2).
**Самая крупная победа** «Коммунальника» — 5:0 (13.05.94 г., Слоним; Огородник — 2, Балашов — 2, А. Дегиль).
**Самое крупное поражение** — 1:4 (6.09.2001 г., Светлогорск; Евсеенко; Дым, Шелухин, Григорьев, Куприков).
**Бомбардиры:** Кравчук — 6; Татарашвили, Кузнецов — по 3).

**Александр ЗАХАРЕНКО**

ФУТБОЛ

## АЛЛЕЯ ФУТБОЛЬНЫХ ЗВЕЗД — В МОНТЕ-КАРЛО!

**Одним престижным футбольным трофеем в мире стало больше.**

Компания World Champions Club при участии La Gazzetta dello Sport и активной поддержке принца Монако Альбера учредили премию Golden Foot, или "Золотая нога". На состоявшейся в Милане пресс-конференции было объявлено, что нынешним летом в Монте-Карло появится Аллея футбольных звезд — футбольный ответ Голливуду с его Аллеей кинозвезд.

**news.sport-express.ru**

## ФУТБОЛЬНЫЕ МИЛЛИОНЕРЫ

**По сообщению журнала France Football, полузащитник "Манчестер Юнайтед" Дэвид Бекхэм является самым высокооплачиваемым футболистом планеты – его годичный заработок составляет 15 миллионов евро.**

На миллион меньше в активе у звезды мадридского "Реала" француза Зинедина Зидана. На третьем месте его товарищ по команде бразилец Рональдо с 11,7 миллионов евро.

В двадцатке самых богатых по четыре представителя "Реала" и итальянского "Интера" и три футболиста "МЮ".

**news.sport-express.ru**

АНОНС

## СТРИТБОЛ И ВОЛЕЙБОЛ В ДЕНЬ ФИЗКУЛЬТУРЫ И СПОРТА

**17 мая 2003 года в Слониме в рамках празднования Дня физкультуры и спорта проводятся следующие спортивно-массовые мероприятия:**

· соревнования по стритболу (танцевальная площадка в городском парке);
· соревнования по волейболу (спортивная площадка СШ №5).

**Начало соревнований в 10 часов утра.**

В соревнованиях могут принять участие все желающие.
Регистрация участников будет проводиться на месте проведения соревнований.

***Победителей ждут интересные призы.***

**Отдел по физической культуре, спорту и туризму Слонимского райисполкома**

 



КАРАТЭ-ДО

# ЧЕТЫРЕ ПРИЗОВЫХ МЕСТА – У СЛОНИМЧАН

**На прошлой неделе, в воскресенье, 11 мая, в Новополоцке прошло 5-е первенство Беларуси среди юношей по киокушинкай каратэ-до.**

Наш город представляли пятеро спортсменов из клуба "Барс", четверо из них заняли призовые места: два вторых и два третьих.

На втором месте среди юношей 13-15 лет (вес от 38 до 44 кг) оказался Алексей Рожковский (СШ №10). Игорь Маркач (СШ №9) также занял второе призовое место среди юношей 16-17 лет (вес до 80 кг).

Максимов Максим (Слонимский сельскохозяйственный профессиональный лицей) выбыл в борьбе за выход в 1/4 финала.

Третье место (юноши от 16-17 лет, вес до 60 кг) досталось Евгению Остапчику (СШ №2). Олег Савич (СШ №8) также занял третье место среди юношей от 13 до 15 лет (вес от 54 до 59 кг).

**Ольга ШИНКЕВИЧ**



*Алексей Рожковский (слева) в финальном поединке*

ХОККЕЙ

## РЕЗУЛЬТАТИВНОСТЬ НА ЧЕМПИОНАТАХ МИРА ВЫРОСЛА

**На чемпионате мира по хоккею в Финляндии в 56 играх было заброшено 349 гола, что в среднем составило 6,23 шайбы за игру. Этот показатель вырос на 0,23 шайбы по сравнению с предыдущим мировым первенством.**

За последние 10 чемпионатов мира самым результативным был турнир 1997 года, на котором в среднем забивалось 7 шайб за игру. В восьми матчах первенства голкиперам удалось сохранить свои ворота в неприкосновенности. На прошлогоднем турнире подобное случалось 11 раз.

Рекордные 12 "сухих" матчей насчитывали чемпионаты 2000 и 2001 годов.

**news.sport-express.ru**

БИЛЬЯРД

## В ДЕСЯТКЕ ЛУЧШИХ – СЛОНИМЧАНИН

**В Санкт-Петербурге (Россия) завершился чемпионат мира по бильярду ("пирамида»).**

Проходил он под эгидой Всемирной конфедерации бильярдного спорта, Всемирной ассоциации пула и Международного комитета по «пирамиде».

На эти соревнования приехало более 60 спортсменов из тридцати пяти стран планеты. И приятно, что лучшим в составе команды Беларуси стал слонимчанин Игорь Купава. В итоговом протоколе он занял седьмое место.

Кстати, призовой фонд чемпионата составил 20 тысяч долларов США. Победитель получил 4 000, серебряный призер – 2 000, бильярдисты, занявшие 3-4 места, – по 1 250 долларов. А вот Игорь Купава за свое седьмое место заработал 750 долларов США.

**Валерий КОВАЛЕНКО**

КАРАТЭ-ДО

# КАРАТИСТЫ КЛУБА "БАРС" ОТЛИЧИЛИСЬ НА ЧЕМПИОНАТЕ РЕСПУБЛИКИ

**В весовом чемпионате республики по каратэ-до среди взрослых, который проходил 26 апреля в Минске, участвовало три спортсмена слонимского клуба "Барс".**

Александр Григорчик (в весовой категории до 80 кг) выбыл в борьбе за выход в 1/8-ю финала, Сергей Ходун (весовая категория – более 80 кг) выбыл в борьбе за выход в 1/4-ю финала.

Василий Максимов (весовая категория до 70 кг) занял четвертое место в чемпионате.

**Ольга ШИНКЕВИЧ**



*Слева направо: Максим Максимов, Олег Савич, Игорь Маркач, Василий Максимов (тречер), Алексей Рожковский и Евгений Остапчик*

ФУТБОЛ

# НАШИ ЮНОШИ ПОБЕДИЛИ В ТУРНИРЕ ШЕСТЕРЫХ

**Слонимские футболисты 1989 года рождения победили в юношеском турнире, который прошел 9–11 мая в Лиде.**

Участие в нем приняли шесть команд. Для того, чтобы определить победителя, ребятам пришлось сыграть между собой по круговой системе.

В итоге, с десятью очками в активе победу праздновали слонимчане. На втором месте расположились юные футболисты первой команды Лиды. Лишь по результату личной встречи уступили им ребята Гродненской СДЮШОР-6.

В составе победителей турнира выступали вратарь Александр Санько, защитники Сергей Чирко, Юрий Левошик, Игорь Шубенок, Дмитрий Харитонович, полузащитники Павел Малец, Артур Павлов, Егор Соколовский, Евгений Юревич, Александр Юревич, нападающие Дмитрий Юзвович, Владимир Гражевич, Андрей Орочко и Василий Крючков.

Тренер команды Руслан Корнев особенно отметил в составе своих воспитанников Дмитрия Юзвовича.

Он, кстати, был признан лучшим игроком и бомбардиром (10 мячей) турнира.

**Валерий КОВАЛЕНКО**

**ИТОГОВАЯ ТАБЛИЦА ТУРНИРА В ЛИДЕ**

| Команда | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | Очки |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Слоним | | 8:0 | 4:1 | 0:1 | 5:1 | 0:0 | 10 |
| СК "Лида" | 0:8 | | 1:0 | 1:0 | 1:1 | 1:1 | 8 |
| "Белкард" Гр. | 1:4 | 0:1 | | 1:1 | 4:2 | 4:1 | 7 |
| СДЮШОР-6 Гр. | 1:0 | 0:1 | 1:1 | | 4:2 | 0:0 | 8 |
| Вороново | 1:5 | 1:1 | 2:4 | 2:4 | | 2:4 | 1 |
| Ск "Лида"-2 | 0:0 | 1:1 | 1:4 | 0:0 | 4:2 | | 6 |

ХОККЕЙ

## У ФИННОВ СТОИТ ПОУЧИТЬСЯ

**Завершившийся в воскресенье в Финляндии чемпионат мира по хоккею с шайбой стал вторым по зрительской посещаемости за всю историю проведения подобных соревнований.**

Общее количество болельщиков, пришедших посмотреть на игры первенства, составило 454 693 болельщика. И всё же этот турнир не смог побить рекорд посещаемости чемпионата мира 1997 года (526 000 зрителей), который также проходил в Финляндии.

## ЦЕННЫЙ ИГРОК

**Самым ценным игроком чемпионата мира признан швед Матс Сундин.**

Тем временем, журналисты определили символическую пятерку и вратаря чемпионата: Шон Бурк (Канада) – Любомир Вишновски (Словакия), Джей Боумистер (Канада) – Дэни Хитли (Канада), Матс Сундин (Швеция), Петер Форсберг (Швеция).

**news.sport-express.ru**

ГРЭБЛЯ

## МАСТАЎЧАНЕ – ПЕРШЫЯ Ў ВОБЛАСЦІ

**У Мастах адбылося абласное першынства сярод веславальшчыкаў на байдарках і каноэ.**

У ім прынялі ўдзел каманды юнакоў і дзяўчат з Гродна, Слоніма і Мастоў. Лепш за іншых выступілі гаспадары спаборніцтва. У агульным заліку яны набралі 236 ачкоў. На другім месцы – гродзенцы. У іх 116 ачкоў. За імі ідзе каманда са Слоніма з 96 ачкамі.

У байдарцы-адзіночцы на 1000 метраў першынстваваў майстар спорту сланімчанін Дзмітрый Лойка. У астатніх відах спаборніцтваў у асноўным перамагалі мастаўчане.

Так на дыстанцыі 1 000 метраў на каноэ перамог Сяргей Ткач, другім быў Алег Конан. Гэткі ж расклад пераможцаў быў і на дыстанцыі 500 метраў. Гэтыя ж хлопцы ў пары перамаглі на 1 000 метраў на каноэ-двойцы.

На байдарцы-двойцы на кіламетровай дыстанцыі сярод дзяўчат першынствавалі Таццяна Скурко і Таццяна Рыбалка. У спаборніцтве паасобку на 1 000 метраў перавагу мела Рыбалка. Скурко была на другой пазіцыі.

А вось на дыстанцыі два з паловаю кіламетры Скурко апярэдзіла Рыбалку.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

ШАШКІ

## БЫЛІ НА ПЕРШЫНСТВЕ СВЕТУ

**Першынства свету па шашках-64 адбылося ў Еўпаторыі (Украіна).**

Спаборніцтвы прайшлі ў прагcentrale святкавання 2500-годдзя з дня заснавання горада (першапачатковая назва Керкініціда) і сабралі 106 юных шашыстаў, сярод якіх былі і прадстаўнікі Слоніма.

Нядрэнна згуляла Ганна Барысік, якая цяпер з'яўляецца навучэнкай Мінскага індустрыяльна-педагагічнага каледжа. Яна заняла восьмае месца ў турніры дзяўчат-юніёрак (1984-1986 г.г. нараджэння).

А вось Андрэй Мацявін (СШ №9) і Дзяніс Ярашэвіч (СШ №8) выступілі яўна ніжэй сваіх магчымасцей, заняўшы адпаведна адзінаццатае і трынаццатае месцы ў спаборніцтвах юнакоў-кадэтаў (1987-1989 г.г. нараджэння).

**Аляксандр ЗАХАРАНКА**

ЧЭМПІЯНАТ ВОБЛАСЦІ

## ПА НОЛЯМ. ВОТ И ВСЯ СТАТИСТИКА

**«БЕЛКАРД» (ГРОДНО) – ФК «СЛОНИМ», 0:0**

**Гродно, 8 мая 2003 года. Армейский стадион. 100 зрителей.**

**Судья:** В. Севостьяник (Гродно).

**«Слоним»:** Берг, Семенов (К), Гриб (Снопко), Плавский, Добриян, Ботик (Левошик), Рудько, Молчанов, Куцко (Сивоха), Мисюк (Юзвович), Захожевский (Ничипорович).

 

ПРЭМ'ЕРА

# "ПЕРСІДСКІ БЭЗ" НА СЛОНІМСКАЙ СЦЭНЕ

У Слонімскім беларускім драматычным тэатры адбылася прэм'ера спектакля па п'есе рускага драматурга Мікалая Каляды "Персідскі бэз".

Спектакль паставіў малады рэжысёр з Мінска Дзяніс Нупрэйчык. Дзяніс заканчвае Акадэмію мастацтваў, а спектакль у Слоніме з'яўляецца яго дыпломнаю працай.

У новай сцэнічнай пастаноўцы толькі дзве галоўныя дзеючыя асобы — ён і яна, ролі якіх выконваюць артысты Сяргей Лішык і Ірына Яцук. Спектакль нялёгкі, бо гэта найперш роздум аб нашым складаным жыцці і чалавечых узаемаадносінах.

Сяргей ЧЫГРЫН




Фота Віталя ГІЛЯ

*Сцэна са спектакля "Персідскі бэз"*





Фота Віталя ГІЛЯ

## ПРОГНОЗ ПОГОДЫ по Гродненской области

**14 мая:**

Облачно с прояснениями, ночью местами, днем на большей территории кратковременные дожди, грозы, местами сильные. Ночью и утром в отдельных районах туман. Ветер южный 3-8 м/с, днем юго-западный 5-10 м/с. Местами при грозе шквалистое усиление 15-20 м/с. Температура воздуха ночью +10 +15, днём +19 +24.

**15-16 мая:**

Облачно с прояснениями.
**15. 05** ночью местами, **15. 05** и **16. 05** на большей части кратковременные дожди, грозы. Ветер юго-западный 4-9 м/с, днём при грозах местами порывы 15- 20 м/с. Температура воздуха ночью +9 +14, местами до +23.

Информацию предоставил Гродноoблгидрометеоцентр


**Газета Слонімская**
Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.
ЗАСНАВАЛЬНІК Віктар ВАЛАДАШЧУК
ВЫДАВЕЦ УП "ГАЗЕТА СЛОНІМСКАЯ"

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР Віктар ВАЛАДАШЧУК
НАМЕСНІК ГАЛОЎНАГА РЭДАКТАРА Сяргей ЧЫГРЫН
АДКАЗНЫ САКРАТАР Мікола КАНАНОВІЧ
ЖУРНАЛІСТЫ Вольга ШЫНКЕВІЧ, Валерый КАВАЛЕНКА
ФОТАКАРЭСПАНДЭНТ Віталь ГІЛЬ
РЭКЛАМНЫ АГЕНТ Андрэй ЕРАМЕЙЧЫК
ГАЛОЎНЫ БУХГАЛТАР Аляўціна СІДАРАВА
БУХГАЛТАР Ганна ВАРАНОВІЧ
ВЁРСТКА І ДЫЗАЙН Аляксей ГАРАЙНАЎ, Сяргей КОПАЦЬ
КАРЭКТАР Галіна КЛІНЦЭВІЧ
АДДЗЕЛ ПАДПІСКІ І РАСПАЎСЮДЖВАННЯ Загадчык: Анатоль ВАЛАДАШЧУК

**Тэлефоны рэдакцыі:**
**2-14-39, 2-49-39, 4-79-34**

**Наш адрас:**
231800, г.Слонім, вул. Камсамольская, 8.

**e-mail:** gs@promedia.by
**http:**//gs.promedia.by

**ГРАФІК ПРЫЁМА РЭКЛАМЫ:**
**Панядзелак - пятніца** з $9^{00}$ да $18^{00}$;
**Нядзеля** з $11^{00}$ да $16^{00}$
**Выхадны — субота**

Апошні тэрмін падачы рэкламы ў чарговы нумар і ўнясення змяненняў у рэкламу **Панядзелак — $18^{00}$**

**Падпісныя індэксы:**
**64042** (індывідуальная)
**63818** (ведамасная)
**63646** (льготная)

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.
Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Рэдакцыя таксама не адказвае за змест рэкламы.

© «Газета Слонімская» Спасылка на «ГС» абавязковая
® Матэрыялы публікуюцца на правах рэкламы

**Падпісана да друку**
13 траўня 2003г.
Час падпісання 18:00.
Заказ № **1554**

**Надрукавана**
ў Гродзенскім абласным унітарным прадпрыемстве "Слонімская друкарня",
г. Слонім, вул. Хлюпіна, 16.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.
Аб'ём — сем друкаваных аркушаў